

*Аляксандра Смоліч.*

# ЗОРКА

## ЧАСТКА II.

## БЕЛАРУСКАЯ ГРАМАТКА

ВЫДАНЬНЕ 7-е.

ЦАНА 1 зал.

ВІЛЬНЯ
БЕЛАРУСКАЕ ВЫДАВЕЦКАЕ ТАВАРЫСТВА
1930.

Аляксандра Смоліч.

# ЗОРКА

## ЧАСТКА II.

## БЕЛАРУСКАЯ ГРАМАТКА.

ВЫДАНЬНЕ СЯДМОЕ.

Друкарня „Pogoń“—„Pax“, Вільня, С.-Ігнатаўская вул. 5.

# СЯРОД ДЗЕТАК.



## ШКОЛА.

Прыйшла Зося са школы. Пытаецца ў яе маленькі браток Васілька: „Што вы робіце ў школе?“ Зося адказала: „Мы вучымся чытаць, пісаць і лічыць“. Пытаецца Васілька: „Нашто вы вучыцеся?“ Адказала Зося: „Натое, каб быць разумнымі і добрымі“.

*Прыказкі: 1) Што жывем, то вучымся, 2) Хто пытае, той ня блудзіць.*

*Запытаньне: А нашто мы вучымся?*

## МАМА.

На рынку нейк адбілася ад маткі дзіця, ды блутаецца між народам. Заблудзілася беднае, плача, бегае, шукае маткі. Пытаюць людзі ў яго: „Якая-ж твая мама, дзетка?“ А яно скрозь сьлёзы і кажа: „Хіба вы ня ведаеце? Мая-ж мама за ўсіх дабрэйшая і прыгажэйшая“.

*Прыказка: Нямаш тае крамы, каб у ей прадаваліся родныя мамы.*

*Запытаньне: Чаму родная маці з усіх людзей дабрэйшая і прыгажэйшая?*



## ДАРОЖКА.

Кую, кую ножку,
Паеду ў дарожку.
Дарожка крывая,
Кабылка малая.

*Запытаньне: Каму гэтак кажуць? Калі?*

## Каротҡая гутарка.

Неяк сьвятым днём пякла маці аладкі, а сынок Іванка круціўся ўсё каля яе, дый кажа:

— Чаму ты, мамка, са мною не гаварыш?

— Бачыш жа, што няма часу, адказуе маці: — дый што-ж я там буду табе гаворыць?

— Ну хоць што... от сказалі-б: — на табе, Іванка, аладачку!

## ВАСІЛЬКА.

Харошы, прыгожы Васілька!
Ці ня сонца яго радзіла?
Ці ня месяц яго гадаваў?
Ці ня зоркі яго калыхалі?
– Радзіла мяне матулька,
Гадаваў мяне татулька,
Калыхалі мяне сястрыцы.

*Прыназка: Прыгожаму ўсё прыстала.*

## СОН І ДРАМОТА.

Ходзіць Сон каля вакон,
А Драмота каля плоту;
І пытае Сон Драмоту:
„Дзе-ж мы будзем начаваці?"
— Дзе хацінка цяпленькая,
Дзе дзіцятка маленькае.
Туды пойдзем начаваці,
Дзіцятачка калыхаці.

## МАЛЕНЬКАЯ ПЕСЬНЯ.

Люлі, люлі, люлі.
Прыляцелі куры,
Селі на варотах
У чырвоных ботах;
Сталі сакатаці,
Што дзіцяці даці?
Ці бобу каробу,
Ці гароху троху,
Ці канапель чарапень,
Ці ячменю жменю?

*Запытаньне: Калі такія песьні пяюць? Ці ня знаеце вы яшчэ падобных песьняў?*



# КУРКА.

Быў сабе дзедка, была сабе бабка. Была ў іх курка — Рабка. Нанесла курка яец — повен карабец. Дзед біў, біў, — не разьбіў, бабка біла, — не разьбіла Мышка бегла, хвосьцікам матнула і пабіла ўсе яечкі. Дзед плача, бабка плача, курачка кудакча, вароты скрыпяць, сабакі брэшуць, людзі гаманяць...

# САРОКА.

Сарока, варона, на прыпечку сядзела, дзеткам кашу варыла, апалонікам мяшала, дзетак карміла: от гэтаму дам, і гэтаму дам, і гэтаму дам і гэтаму дам, а гэтаму ня дам; гэты абібок, гультай круп ня драў, дроў ня сек, вады не насіў, у печы не паліў.



Ідзе пальчык па вадзіцу у сьцюзёную крыніцу. Тут пень, тут калода, тут крыніца і сьцюдзёная вадзіца.

**Увага:** Гавораць гэтак песьцячы ды забаўляючы маленькіх дзетак.

Ці ўмеецце вы забаўляць маленькіх дзетак?

## Добры каток.

Пайшоў каток у лясок,
Знайшоў каток паясок,
А котачка адняла
І дзіцяці аддала.
Пайшоў каток на таржок
Знайшоў каток піражок.
Ці самому есьці, ці дзіцяці несьці?
— І сам трохі укусіў
І дзіцяці прынасіў.

*Прыназка: На ката пацягушкі, а на дзіця растушкі*

## „Каток сам цягне“.

Кажа матка да чатырохлетняе Ганулькі:

— Ганулька, нашто-ж ты цягнеш катка за хвост, гэта-ж яму баліць!

— Я, мамачка, не цягну, а толькі трымаю за хвосьцік, а каток сам цягне.

# БЕДНАЯ КОТАЧКА.

Сядзела котачка на кухні,
У яе вочачкі папухлі.
— Чаго-ж ты, котачка, плачаш?
Ці піцькі, ці есьцікі хочаш?
— Ні піцькі, ні есьцікі хочу,
Па сваёй жаласьці плачу:
Сам кухар пячонку зьлізаў,
На мяне, котачку сказаў.
Хочаць мне лапкі адбіці;
Чым-жа я буду хадзіці?

# Не падзеляць.

Ела котка малако з міскі. Да коткі падбег Лыска. Котка зафыркала на Лыску. Лыска гаркнуў і схапіў котку за хвост. Мама лінула на іх вады. Котка пабегла пад лаву, а Лыска на двор.

# ПЕРШАЯ НАВУКА.

## Дзяцінныя акуляры.

Бачыў Паўлючок, што дзед, як садзіцца чытаць кніжку, заўсёды надзявае



акуляры. Просіць Паўлючок у дзеда: „купі мне, дзедка, акуляры, я так сама хочу кніжкі чытаць“.—„Добра, кажа дзед, куплю табе акуляры, толькі, ведама, дзяцінныя“: І купіў Паўлючку кніжку.

## Стэфчына казка.

Стэфка кажа сваёй маме.

— Мама, любіш ты слухаць казкі?

— Люблю, дзетачка.

— Можа хочаш, каб я табе сказала казачку?

— Скажы, я вельмі хочу паслухаць.

— А ці спадабаецца яна табе?

— Напэўна спадабаецца.

— Яна вельмі кароценькая.

— Ды ты кажы ўжо...

— Была сабе раз паліваная місачка і стаяла яна на стале, а я... зачапіла неяк, дык яна ўзяла і пабілася.

*Прыказкі: 1) Ня так шкода, як нявыгода. 2) Ляжачага ня б'юць, безбароннага ня рубаюць.*

*Запытаньне: Ці добра—на хітрыні пускацца?*

## ПЛЫВУН.

Гой, гой, дзяцючок,
Куды ты паплыў?



— Па сена, па дровы,
Па красную птушку.
— А дзе ты іх дзенеш?
— Птушку ў клетку,
Сена пад паветку,
Дровы ў печку,
Ды і сам на печку.

## Маленькая швачка.

Алеся была малая, а захацела шыць. Мама дала Алесі кавалачак палатна, іголку й нітку. Цяжка Алесі справіцца з іголкою, накалола яна сабе пальцы, але торбачку пашыла. Благая выйшла торбачка, ды Алеся ўсё-роўна рада, бо сама пашыла.

*Прыказкі: 1) Узяўся за гуж,—не кажы, што нядуж. 2) Што хто ўмее,—за плячамі ня носіць.*

*Запытаньне: Якую вы работу рабіць умееце?*

## ШТО НА ШТО?

„Сіўка—варонка,
Куды паляцела?
— На Іванкаў двор.
„Што Іванка робіць?"
— Касу кляпае
„На што гэта каса?"
— Сена касіць.
„На што гэта сена?"
— Кароўкі карміць.
„На што гэтыя кароўкі?"

— Малачко даіць,
Дзетак паіць.

## Першая кніжка.

Нешта ня доўга пахадзіў Андрэйка ў школу, а ўжо навучыўся чытаць і пісаць. Прыходзіць Андрэйка са школы, прыносіць кніжкі. Сядзе Андрэйка ў вечары за стол з кніжкаю, а бацька, маці, браты меншыя—каля яго. Андрэйка чытае, а ўсе слухаюць. Бацьком уцеха паслухаць сынка, а Андрэйка сам так зсябраваўся з кніжкаю, што ні на мінуту яе ня кідае. Навет сьпіць з кніжкаю.



## Нашая гаспадарка.

Маем дзьве кароўкі: адна рыжая ў белыя латы; мы яе называем „Красуляй“. Другая, палавенькая,—«Зязюлька». Красулька меншая, а больш малака дае;

татка кажа, што лепшы завод. А я люблю Зязюльку, бо ня так на шкоду ласа.



*Раскажэце, што тут нарысована?*

Есьць яшчэ тры авечкі з двойма блізьняткамі, конік-каштанчык і гэта — ўся жывая гаспадарка. Праўда, былі парсючок і дзьве курыцы. Але курэй мамка прадала, а парсючок здох перад Сёмухаю.

**Прыказкі:** 1) *Багаты ці будзем, а галодны ня будзем.* 2) *Двор без гаспадара плача.*

Запытаньне: Якая ў вас гаспадарка? Большая, ці меншая?

## Не гані каня пугаю, а гані аўсом.

Даў татка Мікалаю каня паезьдзіць. «Глядзі-ж толькі, Мікалайка, кажа татка, не гані каня шыбка. Конь стары.» Узьлез

Мікалай на каня і паехаў праз вёску. Узяў ён з сабою пугу і давай паганяць каня. А конь стаў на мейсцы і ня йдзе далей. Прыйшлося Мікалаю зьлезьці з каня.

**Прыказкі:** 1) *Цераз сілу і конь ня ступіць.* 2) *Скаціна бязмоўна, ня скажа, што піць хоча.*

## ГАСПАДАРНЫ ХЛАПЕЦ (жарт).

— Паіў ты каня? — Паіў. — А чаму-ж у яго морда сухая? — А, бо вады не дастаў.

## МАЯ ХАТКА.

І старая і крывая
Хатачка мая;
Уся зьлеплена, як будка,
З аднаго гнільля.
Як увойдзеш, пры парозе
З гліны печ стаіць,
На ўсю хату, як вураднік,
Спадылба глядзіць.
А пад печкай маіх курак

Хаткі — катухі;
Там, як трэба мне ўставаці,
Пяюць пятухі.
Напроць печы—з дзьвёх пліт жорны,
Пры жорнах палок;
Над палком тырчыць пад бэлькай
Коска і брусок



На куце пад абразамі
Стол стаіць, як пан;
Дзьве пры ім таўстыя лаўкі
І адзін тапчан.
Хоць старая, хоць крывая
Хатачка мая,
Не аддам яе нікому,
Бо яна мая.

Запытаньне: Якая вашая хата? Ці любіце вы сваю хату?

## ДОБРЫ САБАКА.

Прыйшоў на двор старац з торбамі. Пабачыў яго сабака і пачаў голасна брахаць. Старац спалохаўся, дый кажа сабацы: „Нашто-ж ты брэшаш на мяне? Я-ж ня злодзей. Я ўжо два дні ня еў нічога“. Сабака кажа: Натое-ж я і брашу, каб цябе бардзей убачылі і далі чаго зьесьці.“

## ШТО КАМУ...

Жылі ў аднаго гаспадара кот, певень, сабака і казёл. Увечары, бывала, зьбяруцца сабе ўсе яны каля ганку і спакойнінька гамоняць аб свае справы. Аб



адным толькі не маглі яны прыйсьці да згоды: што на сьвеце самае найлепшае?

— „Нічога ня можа быць лепшага за малачко“—кажа каток Мурка, садзючыся на ганачку. Добра яно і мышку злавіць,

— Што малако? Каб ячмень, ці крупы, гэта што другое, кажа певень.

— Глупства вы браткі, кажаце, сьцішаў іх Лыска; калі ўжо што ёсьць запраўды добрае, гэта костачка. Эх, колькі я за свой век гэтых самых костачак паядаў! Ужо вы са мной ня сьпірайцеся.

— Добра бывае і сена сьвежынькага пажаваць; а яшчэ, як пахучае!—уставіў і сваё слова казёл.

Спрачаюцца яны і да гэтае пары, аніяк да згоды прыйсьці ня могуць. Што ў го́лаве.

**Прыказкі**: *Душа мая ня крывая, усё прымае.*

Пытаньне: Як прыймаюць у вас старцоў?

## ДАДУМАЛАСЯ.

**У** сьвірне пасяліўся сярдзіты кот.



Дрэнна стала жыць мышам. Сабраліся мышы на раду: што рабіць, каб як ад ката збавіцца. Думалі, думалі, ні да чаго не дадумаліся.

Аж адазвалася нейкае мышанё: „Я ведаю, што трэба зрабіць. Трэба кату званок на шыю начапіць, тады будзе чутно, куды ён ідзе, і мы пахаваемся“.

„Добра твая выдумка, кажа старая мыш, але хто ж гэты званок начэпіць на ката? Ось вазьміся ты, дык мы табе дзякуй скажам.

**Прыказка:** *Блізка відаць, ды далёка дыбаць.*

## ЖАРТ.

— Чаго плачаш, Янук?

— Капейку згубіў.

— На табе дзьве, толькі ня плач.

Янук узяў дзьве капейкі, схаваў іх, ды ізноў плача.

— Дык чаго-ж плачаш?

— Як-жа мне ня плакаць? Якбы ня згубіў гэнае капейкі, дык меў-бы ўжо тры.

**Прыказка:** *Купіў ня купіў, а патаргаваць можна.*

# ЗАВІДЛІВЫ САБАКА.

Бег Лыска па кладцы цераз рэчку, а ў зубах нёс кавалак мяса. Калі глянс, аж у вадзе другі такі самы сабака і так



сама нясе кавалак мяса. Стала Лыску завідна; кінуўся ў рэчку адбіраць тое мяса, а сваё з зубоў ён выпусьціў і згубіў.

Пытаньне: Які гэта быў сабака ў вадзе?

## Разумная сьвіньня.

Нейк дадумалася сьвіньня, што яблыкі растуць на яблыне і што іх адтуль трэба трэсьці; мусіць бачыла, што людзі гэтак рабілі. Ось-жа прыходзіць яна раз

у садок, падбегла да яблынкі і ну яе трэсьці. Што яна патрасе,—яблычкі пападаюць, яна іх пасьць і ўзноў трасе. Яблынка гэта была маладая і яблыкаў на ёй было трошкі. Як трэйці раз патрэсла сьвіньня яе, дык ужо нічога і не звалілася. Тады сьвіньня яшчэ разоў некалькі патрэсла яблынку, прыслухаючыся, ці ня падаюць яблыкі. Але яблыкі больш ня падалі і сьвіньня пайшла сабе далей.

## У КРАМЕ.

Хлопчык да крамніцы: —Дайце за чатыры грошы цукру, за дзесятку гэрбаты і шэсьць грошы рэшты, а заўтра мама аднясе грыўню.

## Шкадуй усё жывое.

У нядзелю маці зарэзала пеўніка ды зварыла з ім крупнік. Смачны быў крупнік. Усе елі і хвалілі, а невялічкі хлопчык Сьцяпанка і лыжкі не памачыў: сядзіць засмуціўшыся.—Сьцяпанка, чаму ж

крупніку не ясі? Можа га̑лоўка баліць? А Сьцяпан адказаў:—Не, мамка, галава не баліць.—Дык чаго-ж такі смутны і не ясі?—Я бачыў як мамка пеўніка рэзала. Яму вельмі балела. Затым я і ня ем крупніку. Сьцяпанка заплакаў, устаў з за стала і пайшоў з хаты.

## Вясёлая бяседа.



А у нашага суседа
Была ўчора бяседа:
Сьвіньня ў дуду іграла,
А курка танцавала,
А певень прыпяваў
І ножкай прыбіваў.





# РОДНЫЯ НАМ ЛЮДЗІ.

## Дзеці і гнязьдзечка.

Зна̑йшлі дзеці ў садку гнязьдзечка. Сядзелі ў ім маладыя птушаняткі. Яны яшчэ ня ўмелі лётаць. Дзеці забралі птушак, прынясьлі ў хату і паказалі татку.

Татка папытаўся: „Ці добра было-б вашай маме, калі-б хто вас украў з хаты?“ Дзеці кажуць: „Не, мама плакала-б“. Татка ізноў пытаецца: „А вам ці добра было-б тады?“ Дзеці кажуць: „Не, і мы плакалі-б і хацелі дамоў“.



Тады татка сказаў: „Такое самае гора будзе матцы-птушцы і гэтым яе дзеткам“.

Дзеці пашкадавалі птушак, аднесьлі іх у садок і пасадзілі ў гнязьдзечка.

**Прыказка:** *Узяў дзіця за руку, матку бярэш за сэрца.*

# НАД КАЛЫСКАЙ.



Над калыскай матка
Ночку каратае,
Хворага сыночка
Цешыць, забаўляе.
Сьпі, маё дзіцятка,
Сьпі, маё любое,—
Ня пужайся мілы,
Бог сьвяты з табою.
Вон пайшоў ты з хаты,
Сівы дзед з кульбою:



Ото дурань сівы
Думаў напалохаць!
Будзе-ж усю ночку
На марозе вохаць.

А ня ходзь у хату!
А ня лезь сьляпіцай!
Плач цяпер і мерзьні,
Ды ня будзь дурніцай.

О, Пятрусь харошы!
Любяць усе Пятруся,
Любіць яго татка,
Любіць і матуся.

Купіць тата Пётру
Боцікі на ножкі,
Пойдзе мой сыночак
Пракладаць дарожкі.



Новую кашульку
Я табе пашыю,
У цёпленькай вадзіцы
Чысценька абмыю.

Будзеш ты харошы:
Цётка не спазнае;
«А чый гэта хлопчык?»
Дзядзька папытае.



Усе дзівіцца стануць
І хваліць Пятруся.
«Гэта—я, ты скажаш,
Я—сынок Габруся».

# БЯДА.

Памёр муж у Кацярыны і засталася яна ўдавою з чатырма дзецьмі. Большаму пайшоў толькі адзінаццаты гадок. Перад сьвятам захварэла Кацярына. Ляжыць яна ў ложку, стогне ды бядуе: „Ось і сьвятка падыходзіць, а нам і сустрэць яго няма чым. Вось, калі бяда ўжо прышла!“



Бо́льшы сынок песьціцца каля маткі дый кажа: „Не бядуй, мамка, я ў людзі пайду, грошы зараблю, будзе тады ў нас усяго багата“. А дзяўчынка шасьцігадовая прылажыла галоўку да матчынае пасьцелі ды кажа: „Ня плач, мама, я падлогу ў хаце падмяту, тапчаны памыю і ўсю хату прыбяру“. Пацалавала маці дзетак, усьмяхнулася і лягчэй ёй стала.

**Прыказкі:** *1) Пакуль сонца ўзойдзе, раса вочы выесьць. 2) Нашто лепшы клад, калі ў дзетках лад. 3) Бяда па бядзе, як па нітачцы йдзе.*

Пытаньне: Ці памагаеце вы бацьком сваім у працы ды ў бядзе?



Што тут нарысавана?

## Няроўная доля.

Багатага бацькі хлопчык падбег да ўдавінае дзяўчынкі ды хваліцца: — „А мы сёньні крупнік з пеўнікам елі“.

А дзяўчынка адказуе:—„А ў нас сёньні ў хату сонейка сьвяціла ды грэла“.

Пытаньне: Чыя доля лепшая? А хто сам лепшы

## Як Раманка любіў сваю мамку.

Бег Раманка цераз вуліцу. Ехалі па вуліцы нейкія людзі. Заглядзіўся Раманка ды трапіў пад кола; зламала яму нагу. Прынесьлі беднага хлопчыка ў хату. Маці яго была хворая; як пачула, што ён застагнаў, схапілася з пасьцелі ды самлела. Раманка раптам сьціх, сьціснуў зубы і пакуль фэльчар напраўляў ды перавязаваў яму нагу, ані разу не застагнаў.

Хіба табе не баліць? Спытаў яго нарэшце фэльчар, дзівуючыся.—«Ой, як

баліць, — ціханька адказаў хлапец, але я не хачу, каб мамка пра гэта ведала; ёй будзе надта цяжка...

**Прыказкі:** 1) *Ці саву аб пень, ці пень аб саву, усё саве баліць.* 2) *Цярпен — спасен.*

Пытаньне: А вы як робіце, калі вам што баліць?

## ПАПЯЧЫЎ

Матка:—Антоська, дзе тваё лякарства на вочы?

Антось: —Я даў яго выпіць малому Янку, бо яму дужа жывот баліць.

## Шчырыя людзі.

Памер у Марылькі бацька, памерла і маці. Ня было каму гадаваць Марыльку, ня было каму аб ёй клапаціцца, ня было дзе ёй і жыць. Толькі ўсяго ў яе й было радні, што дзядзька ды цётка. Ды яны былі вельмі бедныя, часам і есьці ня мелі чаго. Але дзядзьку шкода стала дзяўчынкі, ён і кажа сваёй жонцы: — «Возьмем Марыльку да сябе». А жонка адказуе: — „Нам-жа і сваіх дзяцей гадаваць трудна. А як возьмем яшчэ яе, дык

ужо і солі ня будзе за што купіць, ня будзе чым і страву пасаліць“. Дзядзька падумаў, падумаў, ды кажа:—„ А мы яе і бяз солі есьці будзем“. І цётцы стала шкода сіроткі. Узялі такі яны яе да сябе.

**Прыказкі:** 1) *Не радзіў мак, перабудзем так.* 2) *Трэба жыць, як набяжыць.* 3) *Золата г ў попеле відно.* 4) *Над сіратою—Бог з калітою.*

Пытаньне: Ці бачылі вы такіх добрых людзей у сваёй вёсцы?

## Крыўда да сваякоў.

Ссеклі людзі бярозу, парабілі кліны з сукоў і пачалі шчапаць камель. Пацёк сок з бярозы. Убачыла гэта хвойка, дый пытаецца: „Чаго, бярозка, плачаш?“—„Ды як-жа мне ня плакаць, кажа бяроза, ну няхай сякера мяне сячэ,—але ось што крыўдна, што мае-ж кліны, з маіх сукоў паробленыя, ды на мяне з сякераю пайшлі“.

**Прыказка:** *Якое дзерава, такі клін, які бацька, такі сын.*

Пытаньне: Ці добра вы жывіцё з сваймі сваякамі?

# У ШКОЛКУ.

Ярка на камінку
Смольны корч пылае,
Бацька на калодцы
Лапаць выплятае.
Латае халацік
На услоне матка,
Ў школу заўтра пойдзе
Іх сынок Ігнатка.

„Ну, Ігнат, глядзі брат,
Ня дурэй, вучыся,
Годзе жыць бяз дзела,
За буквар вазьміся.
Будзь старэнным, сынку,
Станеш чалавекам,
Будзеш ты чытаць нам
Цёмным няумекам.



Сын васьмігадовы
Корчык падкладае,
З бацькавай работы
Вочак ня спускае.
Сьветлая галоўка
Мысьлямі занята;
Многа ўсякіх думак
У вачох Ігната.

Што там ў кнігах пішуць,
Што мы ў сьвеце значым,
Бо мы самі цёмны,
Сьвету мы ня ўбачым.
Слухай, што настаўнік
Гаварыці будзе
Пра навуку, кнігі
І аб цёмным людзе...

А старэнным будзеш,
Да навукі здатны,
Я прадам кароўку
І кажух астатні:
  Далей йдзі ў навуку,
  Толькі, брат, вучыся...
  Дык глядзі, сыночак,
  Шчыранька вазьміся.
На гульню пустую
Плюнь, махні рукою,
Каб і я і маці
Цешыліся табою."
  На казаньне бацькі
  Адказаў Ігнатка:
  „Буду я вучыцца,
  Як ты кажаш татка!"
  А як сын улёгся,
Думкі ўзварушыліся
І ўсю ноч Ігнасю
Школка, кнігі сьніліся.



# УВОСЕНЬ І УЗІМКУ

## МАТКА і ДАЧКА.

Праз бары, бары, лясы
Шэры гусі ляцелі,
Лятучы гаварылі:
— Няма лепшае ягадкі,
Як сунічанька ў бары;
Няма лепшае госьціцы,
Як дачушка ў матачкі;
А як матачка памрэ,
Дык дарожка зарасьце
Ельнічкам, бярэзьнічкам,
Зялёным арэшнічкам.



Пытаньне: Бачылі вы, як дікія гусі лятуць? Калі гэта было?

## Бацькава навука.

Навучаў бацька сыноў, каб жылі згодна. Сыны яго ня слухалі. Ён сказаў тады прынесьці сабе венік, ды і кажа сыном: „Зламайце яго.“ Прабавалі сыны ламаць ды не ўдалося.

Тады бацька разьвязаў аборачку на веніку; венік разсыпаўся. Бацька сказаў сыном ламаць па аднэй розачцы. Сыны зараз усё паламалі.

Кажа тады бацька: „Калі будзеце ў згодзе жыць, хіхто вас не перасіліць, а як будзеце сварыцца, дык кожнага вас паасобку так сама лёгка будзе перамагчы, як зламаць розачку.

**Прыказка:** *Дзеткі падрасьлі, хатку растрасьлі.*

## Нашыя дзеткі.

— Што-ж гэта, Пятручок, паеў, паеў усе абаранкі, а аб малой сястрычцы і не падумаў.

— Я, мамачка, усё думаў, усё думаў, ды баяўся, каб яна ня прышла пакуль ня зьем.

Пытаньне: Ці добры Пятручок?

## Сабака і кот.

Кот у сьвірне лавіў мышы, а сабака загаўкаў. Кот выскачыў з сьвірну ды як закрычыць на сабаку: „Што ты мне не даеш мышы лавіць, палохаеш!“ А сабака кажа: „Я благіх людзей страшу, каб, бывае, чаго ня ўкралі ў нас“. А кот кажа, адвярнуўшыся: „Вялікае дзела“. Гаворыць тады сабака: „Якжа не вялікае? То-ж як я брахаць ня буду, дык злодзеі дабро пакрадуць.“—„Маўчы, кажа кот, бо мяне гаспадар больш любіць; я пільную яму хлеб ад мышэй, а ты што? Хіба ты ад мышэй упільнуеш?“ А сабака ізноў:—„Не, каток, мяне гаспадар больш любіць, бо я-ж яго ўсё дабро пільную.“—„Не, мяне,“ кажа кот.—



„Мяне!“ кажа сабака. — І так яны доўга спрачаліся аж пакуль ня прыйшлі злодзеі, не пазабіралі ўсё гаспадарава дабро, а мышы не паелі хлеб.

А тыя нічога ня чулі сьпіраючыся. Пабачыў гэта ўсё гаспадар, узяў ды і прагнаў іх абодвух.

**Прыказкі**: 1) *Упорная каза—ваўку карысьць.* 2) *Ня можаш памагчы, дык лепей памаўчы.*

Пытаньне: Ці ня бывае гэтак з людзьмі? Разскажэце!

## Адлёт журавоў.

Ціха, ціха ў небе
У гэтым Божым моры...
Ся! што то за крыкі
Чуюцца ў прасторы.
Жаласныя крыкі
Льлюцца над зямлёю.
І чапаюць сэрца
Жалем і сьлязою.
У безгранічным нёбе
Роўненькім шнурочкам,
Журавы на вырай
Цягнуць над лясочкам.



Меншыцца шнурочак,
У паднебі тае;
Вось ён чуць чарнее;
З віду прападае.
І стаіш ты нудна,
Доўга пазіраеш,
Як-бы што згубіў ты,
Што і сам ня знаеш.



## Стралец і заяц.

Быў адзін стралец. Прышоў ён у лес, глядзіць — заяц на кусьце сьпіць. Дастаў стралец з кішані табакерку, дый трасець на руку табаку, а сам думае:



„Што я з гэтым зайцам зраблю? Вазьму я яго заб‘ю, мяса ў дзяжу злажу, скурку прадам. То не малыя грошы будуць. Што я за тыя грошы куплю? — Куплю я авечку і барана. Тая авечка акоціць ягнятак. Ягняткі павырастаюць, я іх тады прадам, — вялікія грошы вазьму. Буду я тады вялікім панам. Прыйдзе да мяне які бедны чалавек грошы пазычыць, скажа: „Паночку, зрабі пан ласку“. А я як крыкну на яго: „вон пайшоў...“ дый запраўды крыкнуў стралец, а заяц прачнуўся дый уцёк.



Прыказкі: *З незабітага ліса кажуха ня шыць. І] Пасьпех людзём на сьмех.*

## Зіма блізка.

Чаго ты, лосю, чаго сівенькі
К сялу прылягаеш?
Ці ты, лосю, ці ты сівенькі
Цяжкую зіму чуеш?

„Ды хоць цяжкую, хоць не цяжкую,
Ня будзе як лецечка.



Ды хоць цяжкую, хоць не цяжкую.
Ня будзе як цёплае.

# Дзікія Козы.

(казка)

Быў на сьвеце адзін бедны чалавек, ня меў ён сабе прытулку. І пайшоў ён сабе ў сьвет, куды вочы глядзяць. Трапіў ён у густы лес.

Доўга ён хадзіў па лесе, замарыўся чыста, згаладаўся. Выбіўся такі ён на палянку. Палянка вялікая, кругом лес. Трава на ёй зялёная, густая. Пайшоў той чалавек па палянцы, аж бачыць хатка стаіць, ды такая цікавая, што і ніколі яшчэ ён такой і ня бачыў. Збудавана хатка з бліноў, печ у ёй з сыру, а комін з масла.

Як убачыў гэты чалавек бліны, сыр, масла, давай абдзіраць іх і есьці. Так есьць, што аж за вуш-

мі трашчыць. Пааблупляваў сьцены, папсаваў печ, комін... Аж чуе гул пайшоў, тупат, лопат па лесе. Спалохаўся ён: „Куды мне дзецца?“ думае сабе. Абачыў ён гэта падпечак і нырнуў туды.

А гэта было стада козаў вялікае, вялікае. Прыбеглі козы, як абачаць, што нехта хату паабдзіраў, дужа жаласна забляялі. Потым кінуліся шукаць злодзея: бегалі і туды і сюды — нікога не знайшлі. Няма чаго рабіць, сталі папраўляць хатку: напяклі бліноў, набілі масла, адтапілі тварагу — пазамазавалі комін, печку, пазалепнявалі сьцены.



На другі дзень пайшлі яны на пасту, але адну казу пакінулі, каб яна сьцерагла хатку. Ляжыць каза, вокам ня зьміргнець, сьцеражэ. А ўжо таму чалавеку і есьці захацелася, ды баіцца вылезьці з падпечка. Стаў ён на казу сон напушчаць: глядзіць на яе і прыгаварue: „Сьпі вочка, сьпі вочка, сьпі вочка!“ Адно вочка заснула. Ён тады: „Сьпі другое! сьпі другое, сьпі другое!“ І другое заснула. Тады ён вылез з падпечка, наабдзіраў бліноў, сыра, масла, — ды пад печ і есьць сабе там памаленьку.

Прыйшлі козы дамоў, — сьпіць іхні вартаўнік,

а хатка ізноў абадрана. Хацелі яны біць тую казу, а яна кажа: „што я вінавата, я старалася, як магла. Але неяк сталі мае вочы зачыняцца і я заснула.“ Сабраліся козы, сталі браць раду, як збыць такую бяду. Ра́дзіліся, ра́дзіліся і пастанавілі зрабіць вартаўніком такую казу, у каторай тры вокі. Найшлі такую казу і паставілі яе на варце, а самі пайшлі.

Наш чалавек нічога гэтага ня ведаў. Бачыць ляжыць каза, думае, навяду на яе сон, а сам наемся. Стаў ён гэта глядзець на яе ды прыгавараваць: „Сьпі вочка! сьпі вочка! сьпі другое!“ Заснула ў казы адно вочка і другое. Вылез той чалавек з-пад печы і ўжо хацеў абдзіраць сьцены, — аж тут каза ўбачыла яго трэцім вокам, прачнулася і забляяла дзікім голасам.

Козы пачулі, прыбеглі і хацелі ўжо біць таго чалавека рагамі. Стаў ён тады іх прасіць-маліць: „Козачкі, даражэнькія, пусьцеце жывога, буду вам век служыць.“

Козы зьлітаваліся тады над ім і паставілі яго за пастуха ў сябе. Ён іх пасьвіў, даіў, рабіў масла, сыры... Ось з тае пары і пайшлі козы чалавеку служыць.

Пытаньне: Якая карысьць з казы?

## БАЙ.

Ішоў Бай па сьцяне
Ды ў чырвоным жупане,

Нёс сямёра лапцей
І сабе і жане



І дзяцёнку па лапцёнку.
Казаць казку ці не?

## Песьня пра казла.

Быў у бабкі казёл,
У Барбары казёл.
Ён на стайні стаяў,
Муку, сена ядаў,
Ваду цэджану піў,
Перацэджаную.
Захацелася казлу
Ды ў лес пагуляці,
Сваю сілу спрабаваці,
Шэрых зайцоў агледаці.

Як сустрэў наш казёл
Аж шасьцёх шэрых зайцоў,
А сёмая зайчыня
З абадраным бокам.
Як узяў заяц казла
За хвосьцік,

Ды як кіне яго
Аж на мосьцік!



Як узяў заяц казла
За рогі,
Ды як кіне яго
Аб дарогу!
Бабін дзед дровы сек,
Пабег бабе сказаў.
Пайшла баба на мост,
Валачэ казлоў хвост,
Пайшла баба на дарогу,
Валачэ казловы рогі!
З казла скуру дзяруць,
З казла мяса ядуць,
З казла боты робяць.



**Прыказка.** *Ня будзі ліха калі ліха сьпіць.*

## Як ваўкі сьвіньню нашую ўхапілі.

Мы жылі пры лесе. У лесе было шмат ваўкоў. Бывала, як пачнуць увечары выць, дык аж страшна слухаць. Раз неяк узімку глядзеў я ў вакно. Па пандворку хадзіла сьвіньня. І бачыў я, што праз вароты ўбеглі два сабакі, узялі сьвіньню за вушы і цягнуць яе з двара за вароты. Сьвіньня крычыць і ня хоча ісьці, а сабакі валакуць яе за вушы, ды яшчэ эзаду хвастамі б'юць, каб ішла. Я крычу:—„Мама! чужыя сабакі нашую сьвіньню вядуць.“

Мама прыбегла, глянула ў вакно і кажа: — „Гэта-ж не сабакі, а ваўкі! Прапала нашая сьвіньня!“

Мама выскачыла з хаты і пачала цкаваць ваўкоў нашымі сабакамі. А сабакі спалохаліся ваўкоў, схаваліся пад сьвіран, дый маўчаць. І нікога на той час ня было дома, толькі мама ды я. Ня было каму сьвіньню адбараніць, дык ваўкі і павялі яе ў лес.

Пытаньне: Ці бачылі вы ваўкоў? якая ад іх шкода?



## Коўдрачка.

Нашто гэта, мамка, сьнег узімку йдзе? — А з яго прырода коўдрачку ітчэ.—Коўдрачку, гаворыш, хто-ж ў ёй будзе спаць?—Тыя, што ў зямліцы му-

сяць зімаваць: насеньне маленькае, зярняткі збажынак, карэньчыкі красак, зёлак і травінак.

## Вавёрка і воўк.

Воўк ляжаў пад елкаю і спаў. Вавёрка скакала з елкі на елку і звалілася на ваўка. Воўк схамянуўся і хацеў яе зьесьці. Вавёрка пачала прасіцца: „Пусьці мяне.“ Воўк сказаў:—„Добра. Я пушчу цябе, тольківы скажы мне, чаму вы вавёркі заўсёды такія вясёлыя. Мне ось маркотна, а вы гуляеце ды скачаце“. Вавёрка адказала: „Уперад пусьці мяне на дрэва, дык тады скажу, а то я цябе баюся.“ Воўк быў не галодны і пусьціў.



Вавёрка ўскочыла на галінку і адтуль сказала: — „Табе затым маркотна, што ты злосны. Табе злосьць сэрца паліць. А мы таму вясёлыя, што нам ніколі ня хочацца благога рабіць.“

Пытаньне: Ці злосным людзём добра жыць на сьвеце?

## Хаўрусам.

Надумаліся дзеці каб палуднаваць у школе ўсе разам, хаўрусам. Згаварыліся. Усякі прынёс з дому— хто бульбы, хто круп, гароху. І пачалі сабе варыць адну страву на ўсіх.

Толькі Сымонка Васілёў нічога ня прынёс. Дзе-ж

там: у яго і ў хаце няма чаго есьці. Уперад, бывала, неяк пажывіцца каля таварышаў. А цяпер, як паселі ўсе дзеці, такія вясёлыя ды радыя — каля вялізнае міскі, Сымонка адыйшоў у куток. Успомніў пра яго Пётра. „Палавіну свае часткі я зьеў, а другую няхай зьесьць Сымонка.“ І аддаў яму сваю лыжку.

На другі дзень самы старэйшы спаміж таварышаў кажа: „Чаму гэта адзін Пётра мае харчаваць Сымонку. Па мойму, хай Сымон есьць проста з міскі разам з усімі. Усім будзе годзе.“ Так усе і згадзіліся. Давялося толькі Сымонку лыжку сабе купіць.

Пытаньне: Ці вы памагаеце бедным таварышам?

## ЗІМА.

Белым сьнегам замятае
Вецер чорныя паля;
Кажух белы надзявае
Наша родная зямля.
Мяккі сьнег лятае пухам
І канца яму няма,
І нясе сярдзітым духам
Дзікім сіверам зіма.
Зачыняйце шчыльна хату,
Каб ня дзьмулі халады:
На вакно пляцеце мату,
Каб ня клаў мароз сьляды.
Даставайце з вышак сані,—
Гайда сьцежкі праціраць
І па белым акіяне
Удоўж і ўпоперак гуляць!

Ды узьдзеньце рукавіцы,
Гдзе з марозам жартаваць!
Рады белай мы зіміцы,
Рады з ёю мы гуляць.
Гэй вы коні! Гэй малыя!
Што заснулі? Весялей!
Гэй-жа бегам залатыя!
Варушэцеся жывей!

Пытаньне: А вы, рады зіме ці не?

# Страшны кот.

Вынес чалавек у лес шкоднага ката, дый пусьціў. Сустракае яго лісіца, дый кажа: „Ці ня будзеш ты ў мяне, каток, за гаспадара?“—„А чаму ня быць! буду“. Ось пайшоў каток да лісіцы ў хату, а ліска пабегла па ўсім лесе хваліцца. Спатыкае медзьвядзя і ваўка і так да іх кажа: „Я ўжо вас не баюся, у мяне ўжо ёсьць гаспадар.“ Яны гэта спалохаліся, дый кажуць: —„Пакажы-ж ты нам свайго гаспадара.“ А ліска сказала: „Калі хочаце пабачыць майго мужа, дык палажэце-ж тут вала, а як ён прыйдзе есьці, дык і пабачыце яго, толькі схавайцеся куды-небудзь.“



Зараз воўк пабег, зарэзаў вала, прынёс, палажыў, дзе яму ліска казала. А сам схаваўся ў хвораст, што недалёка ляжаў і толькі хвосьцік відаць з хворасту. А мядзьведзь узьлес на высокі дуб на самы

верх. Паслалі яны зайца прасіць ліску з катом. Падбег той да лісінае хаткі, сказаў скоранька:—„Добры дзень! Прасіў бацька й матка, каб вы ласкавы былі, да нас на абед прыйшлі, хлеба-солі зьелі, чарку гарэлкі выпілі“ — дый пабег назад.

Пайшлі кот з ліскаю і давай есьці вала. Кот сесьць і мармоча: Мяў-мяў. А мядзьведзь на дубе седзячы паціху кажа да ваўка: „Які ён: сам малы, а ўсё гаворыць, што яму есьці мала, мала!“

Кот, добра пад'еўшы, стаў азірацца ўва ўсе бакі і ўгледзіў хвост ваўка, што быў відны з хворасту. Яму здалося, што гэта мыш, дык паціханьку прыцікаўся, дый схапіў ваўка за хвост. Воўк, спалохаўшыся, разваліў хворас і стаў уцікаць. Кот, убачыўшы, што гэта ня мыш, а воўк, сам спалохаўся, ды дзе там уцікаць? — Дай ён на дзерава лезьці



ды якраз на тое, дзе сядзеў мядзьведзь. Мядзьведзьжа, пабачыўшы, што ён лезе на дзерава, сказаў: „Ён і па мяне йдзе,“ ды са страху—бух на зямлю, крэпка пабіўся, дый пабег, кульгаючы. А кот ба-

чыць, што нікога няма, зьлез з дзерава на зямлю і пайшоў з ліскаю да хаты.

З гэтага часу ўсе зьвяры сталі баяцца лісіцы.

**Прыказкі:** 1) *У страха вочы па яблыку.* 2) *Найгорш калі баішся: і ліха ня мінеш і надрыжышся.*

Пытаньне: Ці ня бывае гэтак з лішне палахлівымі людзьмі?

## Асьцярожныя.

Ішлі раз лесам—глухі, сьляпы, крывы, дый голы. Аж глухі кажа: „слухайце, нешта трэснула“.—А сьляпы: „глядзеце, гэта-ж разбойнікі.“ — Скарэй на ўцекі!“—кажа крывы. А голы:—„Бо нас абдзяруць“.

## Сто ваўкоў.

Апавядаў адзін хлапец:—Як ішоў я ўчора праз лес, ось, браткі мае, страху было! Ледзь уцёк.

Пытаюцца яго:—А што-ж там такое?

— Ды мусіць аж сто ваўкоў, калі пагоняцца за мною!

— Ну!

— Чаго там—ну! Ужо калі ня сто, дык паўсотня была!

— Ды іх-жа ў лесе гэтулькі няма.

— Ось яшчэ і ня верыць! Я кажу, што, пэўне, з дзесятак гналася...

— Ды ты не мані!

— Ну хіба-ж я маню? Я-ж кажу—як бег за мною воўк...

— Ды дзе-ж ты таго ваўка бачыў?

— Ну далі Бог-жа! Іду я, а ў хмызьняку нешта... кратаецца.

**Прыказкі:** 1) *З вялікага грому часам малы дождж бывае.* 2) *Баючыся трэску—і ў лес не хадзіць.*

## Воўк і сабака.

Цягнуўся галодны воўк па загуменьню і стрэў сытага сабаку. Воўк і пытаецца: — „Скажы, сабака, дзе вы яду бярыцё?“ Сабака адказаў: — „Нас людзі кормяць.“ Воўк кажа:—„Мусіць-жа шмат прыходзіцца вам працаваць на людзей?“ А сабака кажа:—Не, нашая праца не цяжкая. Уночы двор пільнуем.“

Захацелася і ваўку лёгкае працы, ён і кажа: „А можа-б і мяне твой гаспадар да сябе прыняў. Я-б так сама пільнаваў-бы двор. А то нам, ваўком, надта цяжка з ядою.“—„А чаму-ж, адказаў сабака, ідзі да гаспадара, ён і цябе карміць будзе. Ідзе ўжо воўк



на двор, калі бачыць, аж у сабакі на шыі поўсьць абшмуляная. А гэта ад чаго ў цябе так, пытаецца ў сабакі. А той кажа: „Гэта ад ланцуга. Бачыш, мне на дзень ланцуг на шыю надзяюць, дык гэта ён абшмуляў.“ Тады воўк сказаў: „Ну, браце, бывай здароў! Не пайду я да людзей жыць. Ня хочу, каб на мне

ланцуг быў. Ляпей ужо не даем, а затое вольным застануся."

*Прыказка:* *Ваўка ногі кормяць.*

Пытаньне· Хто з іх разумнейшы?

## Калядная песьня.



Прыйшлі-прыляцелі
Харошы Анелі, —
Залатое крыльле,
А самі у белі.
Дый прынесьлі з неба
Вясёлу навіну:
Чыстая Дзева
Парадзіла сына.
Дый, парадзіўшы,
У пялюшкі спавіла,
А спавіўшы,
У ясьлі зложыла.

Пытаньне: Што вы ведаеце аб Ражстве Хрыстовым?

# КУЦЬЦЯ.

На куцьцю я ўстаў рана, толькі што разьвіднела. Я ўжо даўно чакаў гэтага дня, бо было вельмі цікава, як будуць Мароза клікаць, як што будуць з куцьцёю рабіць. Тата яшчэ досьвіта паехаў па дровы ў лес, а мамка ўсё капалася каля печы, то выймала, то стаўляла саганы.

Мы на двор гуляць не пайшлі, бо была страшная мяцеліца і сьцюжа. Уперад мы бегалі з малым Косьцікам, лавілі катоў, а пасьля нас паклікаў да сябе на печ дзед і пачаў расказаваць казкі пра ваўка,

пра зайчыка і пра тое, якое заўтра будзе вялікае сьвята.

Ужо цямнела. Мамка клікнула мяне і сказала схадзіць у пуню, прынесьці сена. Я зьбегаў, прынёс. Мама палажыла сена ў куце на тапчан, а на сена паставіла саган з куцьцёю. Так сама палажыла сена і на стол, а зьверху накрыла яго белым абрусом.

Вось прыехаў тата з лесу. Уходзіць у хату ўвесь абсыпаны сьнегам, ды кажа: „А пагода праясьняецца; мяцеліца сьціхла, можна будзе і зорку ўгледзіць. „Ідзі, Пятрусь, пільнуй“. Я ведаў, што да першае зоркі ня можна нічога есьці, адзеўся скоранька і пабег на двор. Толькі я выбег, аж бачу з-за хмаркі выглядае



першая зорка. Я скарэй назад у хату. Крычу: „Зорка, зорка“!

Мама ўжо ставіла на стол вячэру. Тата паліў перад абразамі сьвечку. Селі мы ўсе вячэраць. Навет дзед, стогнучы, зьлез з печы (ён ужо некалькі год

з печы ня злазіў, бо быў надта стары і хворы). Так было радасна, што ўсе разам сабраліся.

Уперад памаліліся Богу. Тады дзедка сказаў: „Мароз, мароз! Хадзі да нас куцьцю есьці; цяпер пара твая, дык гуляй і буяй, а ўлетку — ў нас госьцем ня бывай“. Елі ўперад квас, пасьля рыбу, пасьля аладкі, урэшце куцьцю з сытою. Смачная была куцьця.

Пасьля вячэры дзеўкі варажылі, а мяне хлапцы клікалі калядаваць, ды мамка ня пусьціла, бо было сьцюдзена, і ня меў я чаго апрануць. Узьлез я на печ да дзеда, слухаў, слухаў казкі, дый заснуў.

Пытаньне: Як у вас сёлета куцьцю спраўлялі?

## Шчодраўка.

Шчодры вечар, добры вечар!
Стаіць сьвятліца нова зрублёна,
У той сьвятліцы чатыры вакенцы:
У першым акенцы ды яснае сонца,
У другім акенцы — ды ясен месяц
У трэцім акенцы — ды дробныя зоркі,
У чацьвертым акенцы—ды цёмныя хмары.
Ясны месяц — то сам гаспадар,
Яснае сонца — то жонка яго,
Што дробныя зоркі — то дзеткі яго,
Што цёмная хмара — то жыта яго.

Пытаньне: Ці былі ў вас калядоўшчыкі? Што яны пялі?

# Каток і пеўнічак.

Жылі сабе каток з пеўнічкам. Зрабілі яны сабе хатку. Аднаго дня накарміў каток пеўнічка, а сам пайшоў на ўловы. Ажно прыбягае лісічка, дый кажа:



„Пеўнічку, пеўнічку,—адчыні мне!“ Пеўнічак адчыніў, а ліска ўскочыла ў хату, ухапіла пеўнічка і панесла. Стаў пеўнічак крычэць:

Коце, брацe!
Мяне ліска нясе
У высокія горы,
У глыбокія норы
Па бару, па каменьню,
Па ўсялякаму зельлю.

Каток пачуў, прыбег, пеўнічка адабраў, прывёў да хаткі і сказаў яму: „Глядзі-ж, бэстыя, ня слухай лісіцы, як яна прыйдзе, бо я пайду далёка“.

Каток пайшоў, а ліска ізноў прыбегла і кажа: „Пеўнічку, галубочку, адчыні мне, я агню вазьму“.— „Не адчыню, бо ты мяне ўхопіш.“—Ну дык сам мне

падай.“—„І падаваць ня буду“.—„Ня бойся, ну падай праз дзірачку.“ Згадзіўся пеўнічак. Падае ён агонь цераз шчэлачку, а ліска—хап яго! Панесла да свае хаты.

Пеўнічак крычэў, крычэў,—каток не пачуў. Лісіца ўнесла яго ў хату і сказала сваім дочкам: „Наварэце есьці частаваць гасьця“.

А каток, як прыйшоў, бачыць, няма пеўніка. Зрабіў ён сабе іскрыпачку і пужку, пайшоў, сеў над нарою ў ліскі і стаў іграць:

А ў ліскі,
А ў ліскі
Новы двор,—
Тры дачок,
Тры дачок
На выбор;
Чацьверты пеўнічак
Гэта-ж мой!

Пачулі гэта дочкі лісіцы, дый кажуць: „Ах мамка, як-жа нехта хораша ірае. Мы пойдзема паглядзём“.

Дочкі выйшлі глядзець, а каток па іх пужкаю; яны і паваліліся.

Чакала, чакала лісіца дачок ды кажа: „А, подлыя, ня йдуць есьці!“ Узяла дубец і выйшла. А каток і па ёй пужкаю. І яна павалілася.

Пеўнічак тады выскачыў з хаткі і пабеглі яны з катком дамоў.

**Прыказкі:** 1) *Хто ціха ходзіць, той густа меціць.* 2) *Крутнёю сьвет пройдзеш, ды назад ня вернешся.*

## У зімовую ночку.

Няпрыветна цераз вокны
Ночка пазірае,
Ціха ў хаце — ўся сямейка
Сьпіць ды спачывае,

Натрудзіўшы добра рукі,
Натаміўшы плечы.
Толькі матка з вераценцам
Прытулілась к печы
І прадзе, прадзе кудзельку
Скача вераценца,
А за ім густыя цені
Бегаюць па сьцены.
На камінку корч пылае,
Злотам іскры скачуць,
За ваконцам вецер ходзіць,
Глуха вербы плачуць.
Зябнуць вербы на марозе,
Прытуліўшысь к стрэсе.
Сьнегам вецер сыпле ў дзьверы;
Ходзіць шум па лесе...
А пад гэты шум трывожны
Думае старая,
А ў сьлед думкам неспакойна
Вецер падпявае

## Галоднага накармі.

Была сярдзітая зіма. На зямлі ляжаў глыбокі сьнег. Цяжка жылося верабейчыкам: не маглі яны бедныя знайсьці сабе ані каліўца. Ад сьцюжы і голаду жаласна чырыкалі яны, лётаючы каля хаты.

Пашкадавала іх Марылька. Назьбірала яна зернятак, крошак ад хлеба, выйшла на двор і стала сыпаць верабейчыкам. Брат ёй кажа: „Што ты тут мерзьнеш, Марылька: ішла-б ляпей у хату, а то яшчэ празябнеш.“—„Калі мне шкада верабейчыкаў; яны-ж такія галодныя, адказала Марылька; я буду карміць іх што дня аж пакуль не пацяплее“. „Ну, ўсіх хіба

не накорміш; іх тут пропасьць“, сказаў брат. А я думаю, адказала Марылька, што ў кожнай хаце ёсьць дзеткі; яны пашкадуюць бедных верабейчыкаў і пакормяць іх праз гэты цяжкі час.

**Прыказка:** *Голад ня цётка, зьесьць што папала.*

## Старац узімку.

Сьнег замятае дарогу,
Бура сярдзіта гудзе;—
Старац-калека убогі
Вуліцай вёскі ідзе.
Сыплюцца з холаду сьлёзы,
Жыва бягуць па твары,
Белыя вусы з марозу;
Рукі і ногі—хоць тры.
Хоць не пад сілу старому
Гэткай парой жабраваць,
Ходзіць бядак: па сваёму
Мусіць свой хлеб здабываць.

**Прыказка:** *Пытаецца люты, ці добра ногі абуты.*

## Сварба вясны з зімою.

Пасварыліся вясна з зімою, ну й давай адна аднэй на злосьць рабіць. „Я, кажа вясна на зіму, ня буду з табою шмат гаварыць! За каўнер і так шпіргану, што аж за лясамі ты ў мяне апынéшся!“—„Маўчы, маўчы,— бурчэла белая зіма: — хіба я цябе ў барані рог заганю; як сьцісну, то аж табе вылезуць вочы.“ Ну й пачалі адна аднэй на перакор рабіць.

Зіма паўзе з марозам,—вясна лезе з адлігай, і йзноў няма парадку.

Цярпелі людзі, цярпелі. А пасьля давай сход зьбіраць, давай радзіць, на чыёй тут старане ім стаць. Адны казалі: „Мы яшчэ ня вымалацілі збожжа, не навазілі дроў, не адпачылі пасьля летняе працы, хай пабудзе зіма.“ Другія ізноў крычэлі:—„Вон зіму! яна нас памарозіць; мы і так лапці патапталі, кажухі абадралі. Досіць нам яе; хочам вясны.“ І няма ведама, як то яно прайшло-б на тым сходзе, каб не ўвайшоў старэнькі жабрак і не пачаў жаліцца на зіму.

Праўда: вушы былі адмарожаны, рукі пакрэпшы, сьвітка парваная, сам ён дрыжэў ад сьцюжы. Увесь сход



закрычэў у адзін голас: „ня хочам зімы! хай вясна ідзе да нас!“ Бедная зіма заплакала горка на людзей; сьлёзкі яе цяклі са стрэх, білі па абалонках, разьліваліся па зямлі, зьбягалі ў лужы, з лужаў у рэчкі, з рэчак у моры, з мораў у акіяны.

А вясна сьмяялася, строілася ў кветкі, гарцавала па палёх, песьцілася па садох, шчабятала з птушкамі, цалавалася з дзеткамі, аж пакуль не пасварылася з летам. Хто цяпер абдалее, скажэце, дзеткі, самі.

# ВЯСНА КРАСНАЯ.



## Заклiканьне вясны.

Благаславi, Божа, зiму замыкацi;
Зiму замыкацi, вясну загукацi:
На цiхое лета, ўсякую пашнiцу!
У полi капамi, на гумне тарпамi,
На таку ўмалотам, у млыне намолам,
У дзяжы падыходам, а у печы ростам,
А на стале кроем, людзём на здароўе.

**Прыказкi:** *1) Са шчасьцем i ў грыбы добра хадзiць. 2) Дай Бог чутае бачыць.*

**Увага:** Гэтую песьню пяюць на пачатку вясны, вечарамi, выйшаўшы на абтаяўшы са сьнегу ўзгорак. Як вы сустракалi вясну?

## Пралеска.

У лесе пад елкай старой у цянечку пралекі блакітнае глянула вочка. Упе-рад па трошку зялёная вылезла ножка. Пасьля пацягнулася — соладка гэтак, каб вырасьці больш за пралесак суседак. Заспаныя ціха павекі падняла і елку старую спытала: „Я бачу, надвор'е ўжо цёплае, яснае, скажы мне, то-ж мусіць запраўды прыйшла вясна красная?"



## Малы млынок.

Што дня ўсё станавілася цяплей і цяплей. Пацяклі ўжо ручайкі. Усе дзеці павыбягалі на вуліцу. Забаўляюцца вадою. У каго ў руках рыдлёўка, у каго кіёк. Адны пускаюць ручайкі, другія робяць грэблі, масты. Хто да чаго здатны. Зьмітрачок пачаў рабіць млын. Узяў ён пруточак, дарабіў да яго лучынкі, як крыльле, і паклаў папярок ручаінкі. Вада ў ручаю цячэ, кратае крыльле, а тое круціцца. Ну зусім, як кола ў млыне. Дзеці скачуць ад радасьці. Прычапіў Зьмітрачок да прутка нітку, а да ніткі прывязаў трэсачку і пусьціў яе на ваду. Кола круціцца, нітка наматуецца на пруток і трэска, бы човен, плыве



ўгару. Ось як прыдумаў Зьмітрок! Дзяцём дзіва, а Зьмітрачок кажа: „Як вырасту вялікі, пабудую праўдзівы млын, а сам буду млынаром.

**Прыказка:** *Дзельніка дзела баіцца.*

Пытаньне: А што вы будзеце рабіць, як вырасьціце?

## Увясну.

Вось перша жаваранка Божа
Запяяла ціха аб вясьне.
Паліўся срыбрам сьпеў прыгожы
У далёкай, сіняй вышыне.
Глядзіць прыветна з неба сонца,
Як-бы матулька на дзяцей;
І лёгка, лёгка так бяз концa;
І б'ецца сэрца весялей.



## Абое рабое.





*Што тут нарысавана?*

Жылі сабе на абодвух канцох балота Журавель ды Чапля. І задумаў Журавель да Чаплі ў сваты ісьці. Ціпяху, ліпяху, сем вярстоў на маху. Цераз бор ды ў чапляў двор. „Як маешся Чапля?“ — „Здароў Журавель“ — „Ці ня пойдзеш, Чапля, за мяне замуж?“ —

„А твае ногі даўгія, пер'е каротка; дужа ты брыдкі, не прыпадаеш да майго смаку. Ідзі сабе, гдзе быў!“ Журавель перабраўся ізноў цераз балота, ды прыйшоў у свой двор.

Раздумалася Чапля, што за Жураўля замуж не пайшла, дый кажа:—„пайду да яго і перапрашу“.

Ціпяху, ліпяху, сем вярстоў па маху, цераз бор, ды ў жураўлёў двор. — „Здароў Журавель?“ — „Як маешся Чапля?“ — „Вазьмі мяне замуж за сябе.“ — „Твая шыя даўгая, і сіняя, і крывая і сама ты гарбатая; такой мне не патрэба.“

Хоць было і стыдна, аднак Чапля паплялася цераз бор назад у свой двор.

Шкода стала Жураўлю, што ня ўзяў Чаплю, і йзноў пайшоў ён тэю самаю дарогаю. Ціпяху, ліпяху сем вярстоў па маху...

Так цэлы век свой і хадзілі яны адно да аднаго ў сваты.

**Прыказкі:** 1) *Як гукнеш, так і адгукнецца.* 2) *За дурной галавой і нагам неспакой.*

## Конь і ворагі.

Была вайна. Прыйшлі варожыя салдаты на чужую зямлю. Народ пачаў уцікаць. Адзін гаспадар пабег у поле па свайго каня і пачаў яго лавіць. А конь не даваўся злавіць. Той гаспадар і кажа: „Дурны ты, уцікаеш ад мяне; дык цябе-ж ворагі забяруць“. А конь адказуе: „А што са мною ворагі рабіць будуць?“ Гаспадар адказаў: „Ведама што, вазіць прымусяць“. А конь кажа: „А ў цябе я хіба не важу? Мусіць мне ўсё роўна ці цябе вазіць ці тваіх ворагаў“. І пабег сабе далей.

Пытаньне: Як вы думаеце, ці добра гаспадар абыходзіўся з сваім канём?

## На Благавешчаньне.

Благавешчаньніка сьвятое,
Пашлі сонейка залатое!
Штоб зямелька адыйшла,
Ды красна вясна к нам прыйшла;



Штоб распусьціліся ветачкі,
Штоб закрасавалі кветачкі,
Штоб лугі зазелянеліся!
Сенажаткі каб адзеліся.
А мы пойдзем у лес па мятачку,
Ці па шчавель у сваю нівачку.

*Прыказка: Будзе пара, вырасьце трава.*

## Міласэрныя вераб'і.

Адзін чалавек пабачыў на вуліцы, што вераб'і кормяць нейкага аднаго вераб'я: — ні малога, ні вялікага, а такога, як яны самі. Хацелася чалавеку даведацца, чаму гэты верабей сам ня есьць, а таварышы кладуць яму яду ў рот. Пачаў ён прыглядацца і падыйшоў бліжэй. Вераб'і спалохаліся, ускочылі і паляцелі. А той, якога яны кармілі, не паляцеў з імі, а кідаўся то туды, то



сюды. Чалавек злавіў яго і пабачыў, што ён сьляпы. Тады ён пусьціў яго, а сам адыйшоўся. Вераб'і пазьляталіся да сьляпога таварыша і ўзноў пачалі яго карміць.

## Кульгавы і сьляпы.

Давялося кульгаваму і сьляпому пераходзіць у брод цераз рэчку. Сьляпы ўзяў кульгавага на плечы і абое перабраліся шчасьліва.

## На вербніцу.



Не я б'ю, вярба б'ець!
За тыдзень—Вялікдзень!
Хвора ў лес на верас,
А здароўе ў косьці.
Будзь здароў як вада,
А расьці як вярба!
Будзь багат як зямля,
Будзь вясёл як пчала!

Пытаньне: Чым зямля багата?

## Варона і рак.



Ухапіла варона з вады рака, села на вольху над вадою дый хацела яго есьці. Бачыць рак, што бяда, дык кажа: „Ой, варона, якая-ж ты харошая!—Угу— кажа варона, не рашча-

пляючы дзюбы. А рак ізноў — „Я тваіх бацькоў знаў: — вельмі прыгожыя былі птушкі“. А варона ізноў кажа: — „Угу!“ — Тады рак:—„Але хоць і прыгожыя былі, ды куды ім да цябе! Калі толькі ў цябе ёсьць голас, дык ты запраўды будзеш царом“. Варона тады, як разявіць рот, як гукне з усяе сілы, каб паказаць, што ў яе голас ё:—„Ага“,—і выпусьціла рака. Рак зваліўся проста ў ваду, дый кажа адтуль: „Эх, варона, голас у цябе ёсьць, а ось розуму няма!“

Пытаньне: Ці любіце вы, каб да вас паддабрываліся?

## Разумная варона.



Захацелася вароне піць. Знайшла яна нейдзе пад хлевам гладыш з вадою, але вада была ў ім толькі на самым дне. Не магла варона дастаць вады. Тады яна надумалася кідаць у гладыш каменьчыкі. Хутка яна гэтулькі каменьчыкаў накідала ў гладыш, што вада паднялася ўгару і вароне можна было напіцца.

## Раніцаю.

Выглянула з-за лесу яснае сонейка і паслала ўсюды свае залатыя касулькі будзіць зямлю.

Праляцела першая касулька і трапіла на жаваранка. Страпянуўся той, выляцеў з гнязьдзечка, высака-высака шугануў пад нябёсы і запяяў сваю серабрыстую песьню.

Другая касулька трапіла на зайчыка. Зайчык працёр лапкамі заспаныя вочкі і вясёла паскакаў па

сенажацi. Пабег ён шукаць сабе сьвежае травiцы на сьнеданьне.

Трэцяя касулька прыляцела ў катух. Певень залапатаў крыльлем i запяяў: кукарэ-ку! Куры пазьляталi з седала i пабеглi на двор капацца ў сьмяцьцi ды шукаць чарвякоў.



Чацьвертая касулька трапiла ў вулей. Выпаўзла пчала, села пры ваконцы, а пасьля разставiла крыльле i паляцела зьбiраць мядок з пахучых кветак.

А пятая касулька прыляцела ў хату. Усе паўсталi i старыя i малыя, памылiся, Богу памалiлiся ды да працы пайшлi. Аднаго толькi Васiля мамка нiяк дабудзiцца ня можа. Павярнуўся ён сабе на другi бок ды ўзноў заснуў.

*Прыказка*: *Ранная птушка зубкi цярэбiць, а позная вочкi трэць.*

## Песьня аратая.

Гэткае раздольле
На усе староны;
Выарам мы поле
У скiбiны, ў загоны.

Зерня ў полі зложым
Жменяй спрацаванай:
Зарунейся збожжам
Цьмяная паляна!



*Што тут нарысавана? Раскажэце!*

Пройдуць гэта людзі,
Бедны і багаты;
Дзіўна, дзіўна будзе,
Што зрабіў араты.

**Прыказкі:** *1) Зямелька матка нашая, і корміць і поіць і адзявае нас. 2) Дай зямлі і яна табе дасьць. 3) Што вясною ножкаю коп, то зімою ручкаю хоп. 4) У гліне капейка ня гіне.*

Пытаньне: Ці ўмееце вы араць?

## Дзядок.

Вельмі стары быў Пятрусёў дзед. Твар яго ўвесь зморшчыўся, барада і валасы былі сівыя. Рукі ў дзеда былі вялікія, мазалістыя; пальцы ніколі не разгіналіся. А з вачэй усё цяклі сьлёзы.—„Чаму ў цябе, дзядок,

вочкі заўсёды плачуць?“ пытаўся Пятрусь. — Ад старасьці, унучак,—адказаў дзед. „Чаму ў цябе, дзедка, пальцы, як граблі, ніколі не разагнуцца? — „Ад працы, унучак, як араў я зямельку сахою, касіў травіцу касою, дык задзірвянелі мае пальчыкі. Цяпер іх не разагнеш“. — „Чаму ў цябе, дзядок, на сьпіне горб?“ — „Ад працы, сынок, ад натугі. Саха ды каса гнулі маю сьпіну. Ну і сагнулі яе; цяпер не разагнеш“.

Уздыхнуў дзед, ды пагладзіў унукаву галоўку. А Пятрусь крэпка прытуліўся да свайго дзедкі.

Прыказкі: 1) Быў конь, ды зьезьдзіўся. 2) Век зжыць—ня мех сшыць. 3) Старасьць — ня радасьць, а горб — не карысьць. 4) Дай Божа ў маладосьці грызьці косьці, а пад старасьць—мяк.

Пытаньне: Ці ў вас дзед ёсьць? Любіце вы яго?



## Дарога.

Між палёў шырокіх,
Як зьмяя якая,

Цягнецца дарога
Вузкая, крывая.
Наабапал грушы
Разрасьліся ў полі,
Нізенька яловец
Сохне, як ў няволі.
Тут мужык працуе
Чорны ўвесь, як сажа.
Крыж на раздарожжы
Аб пакуце кажа.
Коціцца цялежка,
Б'ецца аб каменьне;
Гаратай на поле
Глядзіць ў задуменьні.
Ой дарога-сьцежка,
Вузкая-крывая! —
І ты жыцьцё наша,
Ты доля такая.

## Стары сабака.



Быў у чалавека сабака Рабчык. Пакуль малады быў, чалавек яго шкадаваў, а як пастарэў, дык ён яго прагаьяе, есьці не дае. Пайшлі раз бабы ў поле жыта жаць і Рабчык за імі. Брала з сабою гаспадыня на поле і маленькае дзіцянётка. Прынясла яго на поле ў калысцы, калыску павесіла на козлы, а сама пайшла жаць. Рабчык хацеў легчы каля калыскі, дык га-

спадыня ўдарыла яго і прагнала. Лёг Рабчык у аддалі, дый ляжыць смутны.

Толькі людзі адыйшліся, аж бяжыць воўк, выхапіў дзіцянё з калыскі дый пабег. А Рабчык пабачыў, ды—ў сьлед за ім: гаўкае, рве яго, ня пускае. Пачулі бабы, бягуць з сярпамі, дый крычаць: „Ратуйце! воўк дзіцянё ўхапіў!“

Пачулі мужчыны, дагналі ваўка, адабралі дзіцянё.

Кажа тады гаспадар да жонкі: „Бачыш, мы праганялі Рабчыка, а ён нам якую помач даў! Служыў ён нам шчыра ўвесь век, будзем яго да сьмерці даглядаць. Гэтак і зрабілі.

**Прыказкі:** *1) Да пары жбан ваду носіць: вушка адарвецца і жбан разаб‘ецца. 2) Стары вол ніколі баразны не папсуе. 3) Воўк сабакі не баіцца, ды зьвягі ня любіць.*

## Лісіца і жбанок.

Пакінулі бабы на полі жбанок. Бегла тудою лісіца; чуе яна, што ўсё нешта гудзе. Калі яна прыгледзілася, ажно гэта жбанок. Як павее вецер—ён гудзіць. Яна ўзлавалася на яго, начапіла яго сабе на шыю і панесла ў рэчку тапіць. Прынесла яна яго да рэчкі і ўсадзіла ў ваду, а жбанок, як набраўся поўны вады, пайшоў на дно, ды пацягнуў за сабою і лісіцу.

**Прыказка** *Улез у нерат, ні ўзад ні ўперад.*

Пытаньне: Не даводзілася вам цярпець з-за свае злосьці?

## Як пяе салавейка.

А ў лядзе, ў лядзе, мужык сала пёк-пёк-пёк, круціў-круціў-трр,—сала кап-кап-кап-кусь.

## Пасьля працы.

Гэй, варушэцеся, коні панурыя,
Годзе ўжо працы, бо сонца зайшло,
Ярка-чырвоныя, жоўтыя, бурыя
Борозны ў небе яно правяло.

Хутка ўжо зоркі зірнуць сіняватыя,
Месяц пакрые палі палатном.
Годзе ўжо! З вамі вярнуся да хаты я
І пазабудуся сном.

# ДОБРАЕ і БЛАГОЕ.

## Таварышкі.

Купалася Зоська ў рэчцы, ды неяк трапіла на глыбокае мейсца і пачала тапіцца. Крычыць яна: „Ратуйце!“ Нідзе ня было людзей, толькі ішла берагам Ганулял; пачула яна Зоську, кінулася ў ваду і выцягнула дзяўчынку.

Зоська была вельмі спалохаўшыся, а як трошкі адыйшла, кажа: — „Мы-ж з табою ўсё сварыліся; вун і ўчора я цябе штурханула. Як-жа гэта ты кінулася мяне ратаваць?“ А Гануля і кажа: „Я ня думала аб тое, што мы сварыліся, а толькі аб тое, што ты тонеш, дый кажа: „А цяпер, калі хочаш, можам ізноў сварыцца.“

Зоська засьмяялася, ды адказуе: „Не, ужо годзе сварыцца! Будзем добрымі таварышкамі.“

Пытаньне: А што-б вы зрабілі на мейсцы Ганулькі?

## Усход сонца.



На усходзе неба грае,
Дзіўным блескам жару,
Залацісты сноп купае
У полымі пажару.
Чуць-чуць дрогне, праліецца
Чэрвень на усходзе:
Гэта неба усьміхнецца
Людзём і прыродзе.
Над палямі змрок парваўся,
Па нізе расплыўся,
Лес туманом заснаваўся,
Луч расой абмыўся.
Як-жа добра пахне збожжа.
А кругом спакойна!
Эх, як слаўна, як прыгожа,
Хораша, прыстойна.

## Вясёлка.

Пасьля дажджу была на небе вясёлка. Рыгорка пабачыў яе, дый кажа бацьку; „Татка, колькі ў гэтай вясёлцы колераў?“—„У ёй сем колераў, адказаў бацька.— „Ось я бачу сіні, сказаў Рыгорка, такі сіні,

як валошка, і вось зялёны, — як лісьцікі на дрэве. А вун чырвоны, гэтакі мак бывае. Ах, татка, якая харошая гэтая вясёлка.

Пачула тое вясёлка, дый кажа салавейку: „Чуеш, якая я прыгожая,—прыгажэй за цябе.“ Сонейка і кажа: „Ды калі-б мяне ня было, дык-бы і цябе ніхто не пабачыў.“ Вясёлка сьмяецца ды кажа: „Гэта няпраўду ты кажаш“. Узлавалася сонейка і схавалася за хмарку. Зараз-жа і вясёлка згінула.

Пытаньне: Што вы ведаеце аб вясёлцы:

## Дудар.



Былі ў бацькі тры сыны,
А ўсе былі Васілі.
Адзін коні пасе,
Другі лапці пляце,
Трэці сядзіць на камéні,
Дзяржыць дуду на рамéні.
Як павесіў ён дуду,
На зялёным дубу,—
Буйны вецер павеяў,
Ён ўхапіць дуду ня ўсьпеў.
Дуда з дубу звалілася,
На трэсачкі пабілася.
Ці ня дудка-ж была!
Весялушка была!
Весяліла мяне
На чужой старане!

Пытаньне. Ці бачылі вы дуду? Як яна выглядае?

## Падкова.

Ішоў сабе нейкі гаспадар з сынам у места. Калі гляне, аж ляжыць на дарозе падкова: — згубіў нейкі конь. Бацька кажа: „Глянь, сынок, вунь падкова ля-

жыць; паднімі ты яе! А сын кажа:—Ат, няварта дзеля гэтае дрэні нахіляцца“,—дый пайшоў далей. Бацька нічога ня кажучы, падняў падкову і схаваў у кішэнь. Ідучы каля кузьні, ён прадаў яе кавалю, а за тыя грошы купіў вішняў. Ідуць яны далей. Дзень быў гарачы, сонца надта пякло, а вады няма дзе ўзяць. Сыну вельмі хацелася піць, чуць ён цягнуўся ўсьлед за бацькам. Аж бацька, якобы зумысьля, згубіў адну вішню. Сын зараз нахіліўся па яе, падняў і зьеў; трохі яму палягчэла. Яшчэ крыху прайшоў бацька,—ізноў згубіў вішню, а там трэцюю, і чацьвертую, і яшчэ і яшчэ. Так усе вішні па аднэй кідаў, аж пакуль нічога не засталося. Па кожную вішню сын нахіляўся і падымаў яе. Як зьеў ён апошнюю, бацька глянуў на яго, дый кажа: „А што, сынок, мусіць ляпей-бы было раз нахіліцца дзеля падковы, чым гэтулькі разоў дзеля вішняў“.

**Прыказкі:** 1) *Як пасьцелеш, так і высьпешся.* 2) *Каб веданьне, дзе паваліўся, ляпей-бы сесьці там.*

Пытаньне. Ці добра быць гультаём?

## Маладое-дурное.

Прыйшла маленькая мышка ў нару да свае маткі дый кажа: ось, мамка, а я на дварэ двох зьвяроў бачыла. Адзін страшны - страшны, а другі добры.“ Матка спытала: „скажы-ж якія там зьвяры?“ Мышка сказала: „Адзін страшны, ходзіць па панадворку во — гэтак: у яго ногі чорныя, а чуб чырвоны, вочы вылуплены, а нос крывы. Як я міма яго ішла, ён адкрыў ляпу, нагу падняў ды як закрычыць, ды такжа голасна, што я са страху ня ведала, дзе дзецца!“



— „Гэта певень“, сказала старая мыш. Ён ніколі нічога благога ня робіць, ты яго ня бойся. Ну, а другі зьвер які быў?“

„Другі ляжаў сабе на сонейку грэўся. У яго



шыйка беленькая, ножкі шэранькія, шэрстка гладзенькая. Сам ліжа сваю белую грудку і хвастом ледзь-ледзь кратае, ды на мяне глядзіць.“ Старая мыш толькі паківала галавою, ды сказала: — „Дурное ты, дурное! То-ж сам кот быў.“

Пытаньне: Чаму трэба слухаць старэйшых?

## Куцая лісіца.

Ускочыла лісіца ў пастку, адарвала хвост і ўцякла. І пачала яна думаць, як-бы так зрабіць, каб з яе не сьмяяліся.

Паклікала яна да сябе ўсіх лісіц, дый пачала намаўляць іх, каб яны сабе хвасты паадрывалі. „Хвасты, кажа, зусім не патрэбны. Толькі дарэмную вагу за сабою цягаем.“

Адна лісіца здагадалася, дый кажа: „Ох, ня гэтак-бы ты казала, каб ня была сама куцая“. Змоўкла куцая лісіца і пайшла сабе ў сьвет.

**Прыказкі:** 1) *Мякка сьцеле, ды мулка спаць.* 2) *На губах мёд, а на сэрцы лёд.* 3) *Людзей слухай, а свой розум май.*

Пытаньне: Ці ня бывае гэтак між людзьмі?

## На полі ўвясну.

Люблю я прывольле
Шырокіх палёў,
Зялёнае мора
Буйных каласоў.

Ĭ йгрушы старыя,
Што ў жыце шумяць,
Зялёныя межы,
Далёкую гладзь.

Люблю пазіраць я
На поле вясной,
Як ветрык жартліва
Плыве збажынай;

Калышацца жыта,
Радамі бяжыць,
Плыве бязустанку
І ціха шуміць.

## Шавец.

Вучыўся хлапец у шаўца. Неяк раз прыйшоў ён дамоў і быў у суседа на чэсьці. Сядзіць ён, надуўшыся ад пыхі, што ён, значыць, вельмі наўчоны. Людзі бачуць гэта, дый думаць пра яго забыліся. Дык ён сядзеў, сядзеў, дый кажа: „Не ўважайце, людзі добрыя, што я шавец; можаце гаварыць са мною, як з простым чалавекам“.

**Прыказка.** *Ласкавае цялятка дзьве маткі сьсецць, а гордае—ніводнае.*

Пытаньне: Чаму шаўцу здавалася, што ён ня просты чалавек?

## Каласкі.

Пытаўся сын у бацькі: „Чаму гэта на полі, каторыя каласкі стаяць роўна, галовы ўгару пазадзіраўшы, а каторыя ўніз пахіліліся? Бацька сказаў: „Тыя, што галовы пазадзіралі, дык гэта пустыя каласкі; з іх нічога ня будзе. А тыя, што ўніз пахіліліся, ў тых поўна зернятак. Яны нас і прахарчуюць праз зімку.“



Тады сын сказаў: „Цяпер я ведаю хто ўгару нос задзірае.“

## Вучоны сын.

Сын вучыўся ў горадзе і прыехаў на лета да бацькі ў вёску. Бацька і кажа; „вазьмі ты, сынок, граблі, пойдзем сена паграбаем.“ А сын адказаў „я за навукамі ўсе мужыцкія словы пазабываўся. Граблі?.. Што гэта такое за граблі?“ Бацька нічога не сказаў, а сын пайшоў сабе шпацэраваць; ходзіць ён рукі назад заклаўшы, неагледзіўся неяк ды наступіў на граблі. А тыя, як падыймуцца, як трэснуць яго па лобе. Ён тады ня сьцярпеў. Як крыкне: „Ось нягодныя граблі, моцна як б‘юцца.„

**Прыказка.** *Калі Бог захоча каго пакараць, наперад розум адойме.*

Пытаньне: Ці добра гэта, выракацца свайго звычаю вясковага?

## Вячорныя хмаркі.

Сонейка заходзіць  
І кладуцца цені,  
І плывуць хмарынкі  
ў ціхім задуменьні.

Хмаркі залатыя,  
Вы—прастору дзеці;  
Ходзіце вы вечна  
Па ўсім белым сьвеце.

Праплывеце-ж хмаркі  
І над родным краем,  
Над мужычым полем,  
Над зялёным гаем.

І заплачце, хмаркі,
Над мужычай нівай,
Над яго лугамі,
Над хацінкай крывай.

Загрымеце громам,
Стаўшы цёмнай хмарай;
Толькі не пабійце
Збожжа градам, бурай...

Хмаркі залатыя,
Сонца, неба дзеці!
Вы прывет мой шчыры
У вёску занясеце!

## Журавель і лісіца.

Запрасіла ліска жураўля да сябе палуднаваць. Наліла яна стравы ў талерку і стала частаваць госьця. Журавель нічога ня мог узяць сваёй дзюбай а сама ліска тымчасам усю страву паела. На другі дзень запрасіў журавель да сябе ў госьці лісіцу. Паставіў ён перад ёю



высокі гладыш з вузкою шыйкаю, поўны крупніку, і частуе: Еж, лісачка, еж, сястрычка!“ Ліска сербанула троху, а далей з гладыша нічога дастаць ня можа.

А журавель усадзіў сваю дзюбу ў гладыш і зьеў увесь крупнік.

**Прыказкі.** 1) *Што душа мае, тым і прымае.* 2) *У гасьцёх добра, а у хаце ляпей.* 3) *Паздароў Божа гасьцей, каб езьдзілі часьцей.*

Пытаньне: Ці добра гэта: сьмяяцца з чужога звычаю?

## Каўка і галубы.

Галубом добра жылося. Захацелася і каўцы гэтага дабра. Улезла яна ў вапну і пабялілася. Тады паляцела да галубоў. Галубы не пазналі яе і пусьцілі да сябе. А яна з радасьці ня вытрывала дый кракнула. Галубы зараз пазналі каўку па голасе і прагналі яе. Паляцела яна тады назад да кавак. А каўкі яе не пазналі, бо яна была белая, і так сама ад сябе прагналі.

**Прыказкі:** *1) Славен бубен за гарамі. 2) Там добра, дзе нас няма.*

Пытаньне: Ці ня бывае гэтак і з людзьмі? Раскажэце што знаеце.

## Сваё і чужое.

Вучыцеся, браты мае,
Думайце, чытайце;
І чужога вучыцеся,
І свайго-ж ня чурайцесь.
Ня чурайцеся вы слова
Што маці пяяла,
Як малога калыхала,
З малым размаўляла.

Пытаньне: А вы, дзеткі, роднае мовы чурацца ня будзеце?

## Хто мы?

На сьвеце многа ёсьць усякіх краёў і ўсякіх народаў. Наш край называецца Беларусь, а мы самі—беларусы. Каля нас жывуць другія народы,—нашыя суседзі: украінцы, маскоўцы, палякі, жыды.

Яны гавораць па свойму, а мы свойму, пабеларуску: ось гэткая між нас ёсьць розьніца. Край наш небагаты. Але для нас ён больш мілы, чымся ўсе другія краі.

Любіць трэба ўсіх яюдзей, бо ўсе яны нашыя браты: — і жыды, і палякі, і расейцы; але найбольш трэба любіць і шанаваць свой народ, сваю мову, свой родны край. Бо той хто сваіх не навучыўся любіць, той і нікога ня будзе ўмець любіць.

Пытаньне: Ці у вашей вёсцы усе беларуссы? Хто там яшчэ жыве, апры беларусоў?

## Наш народ.

**Мы належым да народу,**
**Што ад ўсходу да заходу**
**З гора кожын у трое гнецца,**
**Аднак гору не даецца!**

Пытаньне: Да якога-ж вы народу належаце? А можас хацелі лепей быць расейцамі, палякамі ці жыдамі? Ці не? Чаму?

## Скончаў работу, — сьмела гуляй!

Над кніжкая ўжо даўно хлопчык ля вакна сядзіць; а сонейка праз вакно яго хоча падражніць: „Ці ня годзе ўжо вычыцца, ці ня час нам пагуляць? „Хлопчык сонцу адказаў: „Не, сонейка, пачакай! Цяпер мне не да гуляньня. Уперад скончу отчытаньне“.

Хлопчык піша і чытае, на галінцы-ж пад вакном птушка голасна сьпявае і пяе ўсё аб адном. „Ці ня годзе ўжо вучыцпа, ці ня час нам пагуляць.“ Хлопчык птушцы адказаў „Не, птушачка, пачакай! Яшчэ мне не да гуляньня. Уперад скончу от чытаньне.“

Сядзіць хлопчык усё над кніжкай і ў вакно ўжо не глядзіць, а яму даўно з садочку вішня сьпелая крычыць: „Ці ня годзе там вучыцца, ці ня час нам пагуляць!“ Хлопчык вішні адказаў: „Не, вішанька, пачакай: Яшчэ мне не да гуляньня. Зараз скончу ўжо чытаньне“.

Скончыў хлопчык свае дзела, кніжку ў скрыню палажыў, у садочак скокнуў сьмела, крычыць: „Хто мяне дражніў?“—Яму сонейка сьмяецца, яму птушачка пяе, яму вішанька, як госьцю, свае ягадкі дае.

Пытаньне: А які ў вас будзе занятак улетку?

## Сонца навукі.

**Сонца навукі скрозь хмары цёмныя**
**Прагляне ясна над нашай ніваю**
**І будуць жыці дзеткі патомныя**
**Добраю доляй, доляй шчасьліваю!**



# Зьмест.

(У чытаньне ўвайшло досыць многа рэчаў, перакладзеных аўтарам з украінскіх, расейскіх і польскіх чытанак і граматак: Грынчэнкі, Чаркасенкі, Флёрава, Вахтерава, Ананьіна (Живой Родник), Толстога, Кэндзерскага і інш).

## Вясна красная.



## Добрае і благое.

